

*А.Р. Жэбрак разам з супрацоўнікамі Інстытута біялогіі АН БССР, канец 1950-х гадоў*

*Серыя заснавана ў 2012 годзе*
*Заснавальнік, каардынатар і рэдактар серыі А. Я. Тарас*
*Мастацкае афармленне серыі Б. Г. Клюйка*

**Мялік А.**

Антон Жэбрак: Бацька беларускай генетыкі / Аляксандр Мялік. — Мінск : «Харвест», 2015. — 64 с. : малюнкі. — (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).

ISBN 978-985-18-3551-1

Антон Жэбрак (1902—1965), выдатны генетык і селекцыянер, акадэмік АН БССР, які паспяхова шукаў шляхі да стварэння новых гатункаў культурных раслін. Адначасова ён мужна змагаўся з прайдзісветамі, што ўчынілі пагром у савецкай біялагічнай навуцы.

**ISBN 978-985-18-3551-1**



## Уступ

Кожнаму беларусу павінна быць вядомым імя народнага паэта Пімена Панчанкі. У далёкім 1976 годзе ён напісаў выдатны верш «Мала сказаць: ненавіджу».

*Мала сказаць: ненавіджу,*
*Мала сказаць: прызнаю,*
*Біцца за праўду — і выжыць,*
*Нібы салдат у баю.*
*Дрэннаму — не пакарыцца,*
*Добрае — не празяваць.*
*З дробнай хлуснёй не мірыцца,*
*З буйнай хлуснёй ваяваць.*
*Гэтым бы і кіравацца...*
*Толькі і зло, і хлусня*
*Хітра маскіравацца*
*Вучацца спрытна штодня.*
*Нехта і подлы, і хіжы*
*Клятву паўторыць тваю:*
*З ворагам біцца — і выжыць,*
*Нібы салдат у баю.*

Радкі з верша Панчанкі прыведзены тут не выпадкова. Бо ўсё жыццё чалавека, якому прысвечана гэтая невялікая кніжка, было няроўнай бітвай за праўду з подлым і хіжым ворагам. І як салдат у бітве, так і наш герой перамог і выжыў!

Імя гэтага слаўнага сына Беларусі, вядомага ва ўсім свеце вучонага-генетыка і селекцыянера, змагара за добрае імя навукі — Антон Раманавіч Жэбрак. Так сталася, што звычайны вясковы хлопец, дзякуючы ўласнаму таленту, настойлівасці і стараннасці, прай-

шоў шлях ад вучня царкоўна-прыходскай школы да акадэміка.

Як сапраўднаму беларусу, Антону Раманавічу хапіла мудрасці і мужнасці, каб не празяваць добрага і не пакарыцца дрэннаму. Яго лёс склаўся такім чынам, што менавіта ён стаў галоўным змагаром з буйнейшай хлуснёй у навуцы XX стагоддзя — мічурынскай біялогіяй.

# 1.
# КАРОТКІ БІЯГРАФІЧНЫ НАРЫС

Простае паходжанне Жэбрака, дзяцінства і юнацтва, якія прыпалі на цяжкія гады Першай сусветнай і грамадзянскіх войнаў «пасадзейнічалі» таму, што аб гэтым часе жыцця вялікага навукоўца сёння вядома вельмі мала.

## Гады дзяцінства

За чатыры кіламетры на паўднёвы ўсход ад мястэчка Зэльвы, што на Гродзеншчыне, на маляўнічым беразе рэчкі Зэльвянкі (а сёння Зэльвенскага вадасховішча) знаходзіцца невялікая вёсачка Збляны. Магчыма, Збляны і засталіся б нікаму не вядомай беларускай вёскай, калі б зімой 1901 года тут, у звычайнай сялянскай сям'і, не нарадзіўся такі ж звычайны беларускі хлопчык.

Пройдзе амаль стагоддзе, як у энцыклапедычных даведніках з гонарам і павагай будзе пісацца: выбітны беларускі вучоны — Антон Жэбрак — нарадзіўся 27 снежня 1901 года ў вёсцы Збляны Зэльвенскай воласці Ваўкавыскага павета Гарадзенскай губерніі.

Яго бацькі — Раман Паўлавіч і Марыя Іванаўна, як і дзяды спрадвечна працавалі на зямлі. Было ў Жэбракаў тры дзесяціны не самай лепшай зямлі і даволі бедная гаспадарка. У сям'і гадаваліся шэсць дзяцей: тры

брата і тры сястры. Па мерках таго часу сям'я з васьмі чалавек — не самая вялікая, але жыцць Жэбракам было даволі складана. Бацька акрамя штодзённай працы на зямлі вымушаны быў працаваць яшчэ і стрэлачнікам на чыгунцы Ваўкавыск — Баранавічы.

Вядома, што асноўным заняткам дзяцей была дапамога бацькам па гаспадарцы, аб чым сам Антон Раманавіч пасля ўспамінаў у сваіх аўтабіяграфіях.

Тры дзесяціны пясчанай зямлі (па сучасных мерках гэта крыху больш за тры гектары) не заўсёды маглі зябяспечыць сям'ю ураджаем і дастаткам, таму спадзявацца даводзілася толькі на ўласныя працавітыя рукі і сялянскае ўменне выжываць.



*Антон Жэбрак — выпускнік рэальнай вучэльні горада Шацка*

Цікава, што бацькі Жэбрака добра разумелі важнасць адукацыі і, ня гледзячы на цяжкія ўмовы жыцця сям'і, імкнуліся вывесці дзяцей у людзі. Будучы акадэмік сваю адукацыю пачынаў у царкоўна-прыходскай школе суседняй вёскі Лаўрыновічы. Затым навучаўся у Слонімскай рэальнай вучэльні, дзе рыхтавалі настаўнікаў пачатковых класаў школ. Заканчэнне вучэльні давала права паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, аб чым марыў малы Антон.

Аднак скончыць Слонімскую вучэльну ён не паспеў — пачалася Першая сусветная вайна.

Беларускія землі ў каторы раз сталі арэнай баявых дзеянняў, імкліва набліжаўся фронт і сям'я Жэбракаў,

як і тысячы іншых беларускіх сямей, у 1915 годзе вымушана была ратавацца ад вайны — ехаць у бежанцы.

Спачатку Жэбракі прытуліліся ў горадзе Мыцішчы — прыгарадзе Масквы. Антон працягнуў навучанне ў адной з рэальных вучэльняў Масквы. Аднак з-за фінансавых цяжкасцей сям'я была вымушана шукаць лепшай долі і пераехала ў невялікі гарадок Шацк Тамбоўскай губерні (сёння Разанская вобласць Расіі). Тут, як пазней успамінаў Антон Раманавіч, бацькі займаліся выпадковымі заробкамі, а сам ён працягнуў навучанне ў рэальнай вучэльні, якую скончыў у 1917 годзе.

Жыццё сям'і ў гэты час было складаным. Пятнаццацігадовым падлеткам Антон вымушаны быў падчас канікул працаваць, каб хоць неяк дапамагчы бацькам. Так, у 1916 годзе ён працаваў бетоншчыкам на Мыцішчанскім бетонным заводзе. У 1917, ужо ў Шацку, працаваў на высечках лесу ды ў іншых месцах.

Заканчэнне рэальнай вучэльні давала права паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Спачатку Антон Раманавіч хацеў паступаць у Маскоўскі ўніверсітэт на літаратурнае аддзяленне. Аднак Расійская Імперыя дажывала апошнія дні, ішла вайна, усюды былі неразбярыха і разруха. Так што прыёму на літаратурнае аддзяленне ў 1917 годзе не было.

Нявядома ад чаго ў 1918 годзе бацькі Антона памерлі, пакінуўшы яшчэ не стаўшых на ногі дзяцей аднымі. З 1918 года ён вымушаны быў самастойна зарабляць на жыццё, пра далейшае навучанне прыйшлося на час забыцца. Антон добраахвотнікам пайшоў у Чырвоную Армію, хутка стаў чальцом партыі бальшавікоў. У гэты ж час займаўся арганізацыяй камсамольскіх ячэек у Шацку, а ў 1919 годзе быў ужо інструктарам-арганізатарам ЦК камсамола. Вядома, што ў той жа самы час Жэбрак наведваў курсы кіраўнікоў камса-

мольскіх арганізацый пры Камуністычным універсітэце ў Маскве.

У 1919 годзе, у самы разгар Грамадзянскай вайны, 18-гадовы Антон пасля заканчэння курсаў атрымаў накірунак у 17-ю кавалерыйскую дывізію на Паўднёвым фронце на пасаду інспектара-арганізатара палітаддзела. На пачатку 1921 года, калі на абшарах былой імперыі стала спакайней, ён дэмабілізаваўся.

## Ціміразеўка

Пасля дэмабілізацыі перад юнаком паўстала пытанне аб выбары далейшага жыццёвага шляху. У тым жа 1921 годзе ён паступіў у Пятроўскую земляробчую акадэмію, якая з 1923 года атрымала імя выдатнага навукоўца Клімента Ціміразева (1843—1920). На трэцім курсе навучання ён наведваў студэнцкі гурток пры кафедры генетыкі, якую з 1920 па 1927 год узначальваў прафесар Сяргей Іванавіч Жэгалаў. Прафесар заўважыў талент маладога студэнта, і на чацвёртым (выпускным) курсе запрасіў Антона ў аспірантуру.

У 1925 годзе ён паспяхова скончыў агранамічны факультэт акадэміі, а з 1925 па 1928 год з'яўляўся аспірантам пры кафедры генетыкі. Адначасова навучаўся ў Інстытуце чырвонай прафесуры, дзе слухаў лекцыі па матэрыялістычнай філасофіі. Аспірантуру скончыў у 1928 годзе і быў прыняты дацэнтам на кафедру генетыкі і селекцыі.

Станаўленню Антона Раманавіча як вучонага-генетыка ў значнай меры садзейнічала навуковая стажыроўка ў буйнейшых навуковых цэнтрах ЗША на працягу 1930—1931 гадоў.

Спачатку ён працаваў у Нью-Ёрку ў лабараторыі прафесара Калумбійскага ўніверсітэта, вядомага амерыканскага генетыка Леслі Кларэнса Дэна.

Потым пераехаў у горад Пасадзіна штата Каліфорнія ў Каліфарнійскі тэхналагічны інстытут — вяду-



*Падчас навучання ў Ціміразеўцы*

чую навучальную і навуковую ўстанову ЗША. Тут ён працаваў у лабараторыі Томаса Ханта Моргана (1866—1945) — вядомага вучонага ў галіне біялогіі і генетыкі, стваральніка храмасомнай тэорыі спадчыннасці. У 1933 годзе Томас Морган атрымаў Нобелеўскаю прэмію па фізіялогіі і медыцыне «За адкрыцці, звязаныя з роляй храмасом у спадчыннасці».

Блізкія стасункі з вядомымі навукоўцамі дапамаглі Жэбраку пазнаёміцца з найноўшымі дасягненнямі тады яшчэ маладой навукі — генетыкі і вызначылі яго далейшую навуковую дзейнасць. У ЗША ён пачаў займацца вывучэннем уплыву ўзросту на праяву генатыпа.

Пасля заканчэння стажыроўкі ў ЗША і вяртання ў родную Ціміразеўскую акадэмію, яго адразу назначылі прафесарам кафедры генетыкі.

Прафесар Сяргей Іванавіч Жэгалаў у 1927 годзе раптоўна памёр і кафедра доўгі час знаходзілася без загадчыка. У 1929 годзе на гэтую пасаду па рэкамендацыі Мікалая Іванавіча Вавілава запрасілі вядомага ў Савецкім Саюзе селекцыянера Пятра Іванавіча Лісіцына.

Пазней кафедра генетыкі была падзелена на дзве самастойныя: кафедру селекцыі і насенняводства (яе ўзначаліў Лісіцын) і кафедру генетыкі і цыталогіі. Узначаліць яе ў 1934 годзе даверылі маладому таленавітаму навукоўцу — Антону Раманавічу Жэбраку.

Крыху раней, у 1933 годзе, Жэбрак з навуковай камандзіроўкай наведаў Манголію. Там ён сабраў багатую калекцыю стэпавых дзікарослых траў, якія ў будучым маглі быць выкарыстаны пры атрыманні новых гатункаў кармавых культур.

Да канца 1935 года Антон Раманавіч падвёў вынікі сваіх даследаванняў аб уплыве ўзросту на стан генатыпа, якія ён пачаў яшчэ падчас стажыроўкі ў ЗША.

7 студзеня 1936 года на паседжанні вучонага савета Маскоўскай сельскагаспадарчай акадэміі імя Ціміразева (МСГА) А. Р. Жэбрак абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Стан генатыпа пры ўзроставай мадыфікацыі арганізма». Па сутнасці, гэта было першае даследаванне па генетыцы антагенезу.

Апанентамі былі акадэмік Яўхім Фядотавіч Ліскун і прафесар Тэхаскага ўніверсітэта Герман Мёллер, які ў гэты час працаваў ва Усесаюзным інстытуце раслінаводства па запрашэнні М. І. Вавілава.

На заключэнне праца была накіравана ў Інстытут генетыкі АН СССР Мікалаю Пятровічу Дубініну (1907—1998), загадчыку лабараторыі цытагенетыкі. Мікалай Пятровіч высока ацаніў даследаванні Жэбрака. Як пазней пісаў сам Дубінін, моцнае сяброўства пасля гэтага звязала яго з Жэбракам. Цікавая і характарыстыка, якую ён даў А. Р. Жэбраку:

> Гэта быў дужы, каранасты, шыракаплечы беларус з галубымі вачыма. Спачатку здавалася, што ён павольна думае, аднак за гэтым хаваўся



*Томас Морган, лаўрэат Нобелеўскай прэміі*

глыбокі розум, цудоўнае разуменне жарту, праўдзівасць і ўстойлівасць у сваіх прынцыпах.

23 лютага 1936 года ВАК СССР прысвоіла А. Р. Жэбраку ступень доктара біялагічных навук.

Падчас працы ў Ціміразеўскай акадэміі Антон Раманавіч актыўна займаўся выкладчыцкай дзейнасцю. Чытаў лекцыі па генетыцы, вёў практыкумы, на якіх імкнуўся данесці да студэнтаў асноўныя палажэнні генетыкі. На зімовых практыкумах студэнты пераважна рашалі задачы па генетыцы, разбіралі схемы скрыжавання, працавалі з гербарным матэрыялам скрыжаваных гароха і пшаніцы, вывучалі з'явы дамінавання і расшчаплення. Быў арганізаваны і дразафільны практыкум. З дразафілай кожны студэнт працаваў індывідуальна. Цыталагічны практыкум складаўся з прыгатавання цыталагічных прэпаратаў разнастайных сельскагаспадарчых культур, вывучэння фаз дзялення клеткі і г. д.

Не менш цікавай была летняя практыка. На ёй студэнты знаёміліся з методыкай і тэхнікай скрыжавання бабовых і злакавых культур, з элементамі генетычнага аналізу на жывым раслінным матэрыяле. Удала пастаўленыя заняткі наглядна і пераканаўча даказвалі законы генетыкі: адзінства першага пакалення, расшчапленне ў другім пакаленні і г. д.

Да 1937 года ў Ціміразеўскай акадэміі курс генетыкі выкладаўся толькі тым студэнтам, якія спецыялізаваліся ў галіне селекцыі і насенняводства. З 1937 года па ініцыятыве А. Р. Жэбрака генетыка пачала выкладацца на ўсіх аддзяленнях паляводчага (так называўся агранамічны факультэт) і агародніна-садавіннага факультэтаў.

Былыя вучні Антона Раманавіча пасля ўспаміналі, што лекцыі ён чытаў вельмі сістэмна. Расказваў аб стажыроўцы ў Моргана, дэманстраваў вынікі сваіх

уласных даследаванняў з амфідыплоідамі пшаніцы. Заўсёды быў пунктуальным, ніколі не спазняўся на лекцыі і заняткі. На іспытах жа ніколі не прыдзіраўся да дробязяў і не быў скупым на добрыя адзнакі.

На кафедры генетыкі і цыталогіі пад кіраўніцтвам Антона Раманавіча разгарнуліся даследаванні па аддаленай гібрыдызацыі пшаніц і эксперыментальнай паліплаідыі. У 1939—1940 гадах у справаздачах АН СССР з'явіліся першыя артыкулы па гэтай праблеме.

Зыходзячы з меркаванняў, што найбольш каштоўныя віды пшаніц ужо самі па сабе з'яўляюцца спантаннымі паліплоідамі і далейшае павелічэнне ў іх ліку храмасом часта дае не дадатны, а адмоўны эфект, А. Р. Жэбрак надаў галоўную ўвагу павелічэнню ліку храмасом не ў чыстых відах пшаніцы, а ў гібрыдаў паміж імі. Неабходнасць міжвідавой гібрыдызацыі выклікалася і тым, што некаторыя гаспадарча карысныя прыкметы рассяроджаны сярод розных відаў пшаніц. Так, віды *Triticum monococcum* і *Triticum timopheevi* характарызуюцца высокай устойлівасцю да грыбных захворванняў і насякомых-шкоднікаў, а від *Triticum durum* валодае выдатнымі якасцямі зерня і высокай прадуктыўнасцю. Скрыжоўваючы гэтыя віды, Антон Раманавіч атрымаў амфідыплоідныя формы, якія валодаюць комплексам карысных прыкмет.



*Антон Раманавіч Жэбрак на фоне Ціміразеўскай Акадэміі*

Жэбраку атрымалася падоўжыць паліплоідны рад пшаніц, які складаўся з дыплоідных, тэтраплоідных і гексаплоідных пшаніц, яшчэ на два звяны, дадаўшы да яго не існуючыя ў прыродзе формы актаплоіднага і дэкаплоіднага.

Антон Раманавіч паказаў, што, спалучаючы гібрыдызацыю з эксперыментальнай паліплаідыяй і выкарыстоўваючы аллаплоіды ў якасці зыходнага матэрыялу для адбору і як кампаненты гібрыдызацыі, можна ствараць не толькі новыя відавыя формы ў межах роду пшаніц, але і пажаданыя для сельскай гаспадаркі гатункі гэтай культуры.

Шмат пазней, у 1957 годзе, абагульненыя вынікі гэтых даследванняў А. Жэбрак прадставіў у манаграфіі «Паліплоідныя віды пшаніц». З вышыні сённяшніх дасягненняў генетыкі мы можам з гонарам сказаць, што яго навуковыя падыходы да даследаванняў былі правобразам сучасных геннаінжэнерных метадаў мэтанакіраванага канструявання новых формаў і гатункаў раслін.

## 2.
## З ВОРАГАМ БІЦЦА І ВЫЖЫЦЬ...

Развіваючы ў сваіх працах палажэнні класічнай генетыкі, Антон Раманавіч вымушаны быў уступіць у барацьбу з прадстаўнікамі так званай «мічурынскай» біялогіі.

### Усё пачыналася так

Антон Раманавіч заўсёды быў аб'ектыўным і карэктным у адносінах да навуковых апанентаў, галоўным з якіх яшчэ ў даваенныя гады стаў прадстаўнік мічурынскай біялогіі Трафім Лысенка.

Як і М. Вавілаў, прафесар Жэбрак не мог пагадзіцца з Лысенкам па шэрагу тэарэтычных пытанняў

генетыкі, аб чым ён не раз публічна заяўляў. У канцы 1935 года на сустрэчы калгаснікаў у Крамлі са Сталіным Лысенка ў сваім выступе на ўсю краіну назваў прозвішчы тых навукоўцаў, якія крытыкавалі яго погляды і спрабавалі паказаць на памылкі. У дакладзе прагучалі прозвішчы: Карпечэнка, Лепін, Жэбрак. Сталін, які меў фенаменальную памяць на прозвішчы, зразумела, запомніў аднаго з крытыкаў Лысенкі — прафесара Жэбрака.

Аднак да 1936 года дыскусіі па генетыцы мелі неафіцыйны характар. Першую навуковую сесію па праблемах генетыкі арганізаваў прэзідэнт Акадэміі сельскагаспадарчых навук А. І. Муралаў (1886—1938). На гэтай сесіі з дакладамі выступілі акадэмікі М. І. Вавілаў, А. С. Сераброўскі, Г. Мёлер, Т. Д. Лысенка. Шматлікія прысутныя на сесіі ведалі пра падтрымку Сталіным пазіцыі Лысенкі і тым не менш знайшліся мужныя прынцыповыя навукоўцы, якія выступілі з крытыкай лысенкаўскіх тэорый у абарону праўдзівай навукі. Сярод іх быў і Антон Раманавіч Жэбрак.

Менавіта з гэтага часу на працягу ўсяго жыцця Антон Раманавіч быў у першых шэрагах навукоўцаў, якія перашкаджалі манапалізму Лысенкі ў біялогіі.

> На ўсіх дыскусіях па генетыцы А. Р. Жэбрак займаў адно з цэнтральных месцаў. Дужы, глыбокадумаючы, нясхільны, упэўнены ў праваце класічнай генетыкі, ён быў выбітным дзеячам нашай генетыкі.

Так ацэньваў Жэбрака ў сваіх успамінах акадэмік М. П. Дубінін.

Напачатку 1937 года ў СССР разгарнулася ідэалагічная кампанія «па ачышчэнні» ад ворагаў партыі і народа. Яна, не без дапамогі Лысенкі, закранула і прафесара Жэбрака. Некалькі месяцаў праходзіла назапашванне «кампрамату» супраць яго, і ў снежні 1937 года Жэбраку было прадастаўлена дасье «абвінавачванняў»,

якое складалася з 11 пунктаў, кожны з якіх па сваёй значнасці мог служыць падставай для выключэння яго з партыі.

Адзін з іх абвяшчаў, што прафесар Жэбрак схаваў свае сувязі з блізкімі сваякамі ў буржуазнай Польшчы. Аднак А. Р. Жэбрак ніколі не хаваў сваёй нацыянальнасці і гістарычнай Радзімы. Заўсёды ў аўтабіяграфіях ён указваў вёску Збляны Гарадзенскай губерні, не адмаўляўся ад сваіх трох сясцёр і роднага брата, якія жылі там і займаліся сельскай гаспадаркай. Праўда, старэйшы брат Мікалай у зімовы перыяд перыядычна выязджаў у Амерыку на заробкі. У штаце Арэгон ён працаваў на лесанарыхтоўках па кантракту. Са сваёй сціплай па даваенных часах прафесарскай зарплаты Жэбрак часам высылаў невялікую суму грошай роднай сястры, якая пражывала ў Заходняй Беларусі, чым і «засвяціўся».



*Мікалай Пятровіч Дубінін*

Выкліканы на пасяджанне парткама па гэтай «справе», Антон Раманавіч, выкарыстоўваючы дух і лексіку таго часу, заявіў:

> Я не бачу нічога дрэннага ў тым, што чалец УКП(б) падтрымлівае сувязь з роднымі, якія жывуць пад прыгнётам польскага фашызму і ненавідзяць яго.

У той жа дзень гэта абвінавачванне было знята.

Тым часам дэбаты вакол снежаньскай сесіі Усесаюзнага аддзялення сельскагаспадарчых навук імя Ле-

ніна (УАСГНІЛ) 1936 года нарасталі, і часам выходзілі з рамак навуковага абмеркавання спрэчных пытанняў генетыкі. Так, на адным з дыскусійных паседжанняў у прысутнасці вялікай колькасці слухачоў А. Р. Жэбрак вымушаны быў «адкрытым тэкстам» выказаць сваю нязгоду з нагоды ўзнагароджання І. У. Мічурына і Т. Д. Лысенкі высокімі ўрадавымі ўзнагародамі. Гэта перапоўніла чашу цярпення парткама акадэміі, і на наступны дзень на агульным партыйным сходзе ён быў аднагалосна выключаны з шэрагаў УКП(б).

Наступствы для Жэбрака і яго сям'і пасля гэтага маглі быць катастрафічнымі. За выключэннем з партыі рушылі ўслед звальненне з працы, высяленне з ведамаснай кватэры. Далей маглі быць больш стромкія меры ўздзеяння, аж да турэмнага зняволення ці высылкі.

Гэта былі вельмі цяжкія дні ў жыцці А. Р. Жэбрака. Як пазней успамінаў яго сын, бацька прыходзіў дахаты вельмі стомленым, не мог засяродзіцца над няскончаным артыкулам. На пытанні жонкі адказваў, што ў яго непрыемнасці на працы. Уначы Антон Раманавіч дрэнна спаў, прыслухоўваючыся да начных гукаў і шоргатаў, чакаючы, што раздасца званок, і ў кватэру ўвойдуць людзі з ордэрам наператрус і арышт...

Аднак у студзені 1938 года адбыўся пленум ЦК УКП(б), рашэнне якога «выратавала» Жэбрака. У прыватнасці на пленуме гаварылася:

> Пара выкрыць такіх, з дазволу сказаць, камуністаў, якія намагаюцца перастрахавацца пры дапамозе рэпрэсій супраць чальцоў партыі.

Адміністрацыя акадэміі прызнала, што рашэнне студзеньскага пленума ЦК партыі цалкам ставіцца да партыйнай арганізацыі, якая дапусціла ў сваёй працы нямала памылак пры рашэнні пытання пра лёс асобных чальцоў партыі. На хвалі «рэабілітацыі», што

пракацілася па краіне, была перагледжана і «справа» Антона Раманавіча. Жэбрак атрымаў строгую вымову з занясеннем у асабістую справу.

## Хто ж такі Лысенка?

Каб лепш зразумець, з якой варожай сілай наканавана было змагацца Антону Раманавічу, варта прыгадаць, кім быў так званы «народны акадэмік» Лысенка. Няма сэнсу падрабязна спыняцца на момантах яго жыцця, дастаткова прывесці асноўныя антынавуковыя погляды Лысенкі і яго спосабы барацьбы з апанентамі.

Сёння ў энцыклапедычнай літатаратуры можна сустрэць наступнае апісанне Лысенкі: *Трафім Дзянісавіч Лысенка (1898—1978) — заснавальнік і буйнейшы прадстаўнік псеўданавуковага кірунку ў біялогіі — мічурынскай аграбіялогіі*. Акадэмік АН УССР (1934), акадэмік УАСГНІЛ (1935), акадэмік АН СССР (1939), Герой Сацыялістычнай Працы (1945), неаднаразовы лаўрэат Сталінскай прэміі.*

Як аграном Трафім Лысенка прапанаваў і прапагандаваў шэраг агратэхнічных прыёмаў (яравізацыя, чаканка бавоўніка, летнія пасадкі бульбы і г. д.). Большасць методык, прапанаваных Лысенкам, былі падвергнуты крытыцы такімі навукоўцамі, як П. Н. Кастусёў, А. А. Любішчаў, П. І. Лісіцын і А. Р. Жэбрак яшчэ ў пачатковы перыяд іх распаўсюджвання ў савецкай сельскай гаспадарцы. Выяўляючы агульныя недахопы тэорый і агранамічных методык Лысенкі, навуковыя апаненты таксама асуджалі яго за разрыў з сусветнай навукай і гаспадарчай практыкай.

Квінтэсенцыя тэорыі так званай «мічурынскай біялогіі» Лысенкі — гэта сцверджанне, быццам расліны і жывёлы здольныя наследаваць новыя асаблівасці

* Ад прозвішча вядомага расійскага селекцыянера пладова-ягадных раслін Івана Мічурына (1855—1935). — *Рэд.*

прыкметы) арганізмаў, якія выраблілі бацькі на працягу свайго жыцця а таксама тое, што адны віды арганізмаў нібыта могуць пераўтварацца ў іншыя віды Сёння добра вядома, што ўсё гэта — фантазія.

Больш за тое, Лысенка падтрымаў у 1950 годзе псеўданавуковую тэорыю Вольгі Лепяшынскай (1871—1963), фельчаркі па адукацыі, пра ўтварэнне жывых клетак з бесструктурнага «жывога рэчыва» (бульёну).

Трэба адзначыць, что ўсе «навуковыя дасягненні» Т. Д. Лысенкі і ягонай біялогіі былі прызнаны антынавуковымі ўсім цывілізаваным светам. Аднак на працягу трох дзесяцігоддзяў (1934—1964) Лысенка пад абярэгам Сталіна, а пазней Хрушчова вырашаў лёс не толькі савецкай біялагічнай навукі, але і многіх таленавітых людзей.

У чым была сіла Лысенкі? У тым, што яго дэмагогія і палітыканства знаходзілі падтрымку ў тых, хто прымаў важнейшыя рашэнні. Яго вар'яцкія прапановы падхаплялі тыя, хто з-за некампетэнтнасці, няўмення вырашаць цяжкія эканамічныя праблемы спадзяваўся на «цуд». Адным з такіх «цудадзейных» агратэхнічных прыёмаў, напрыклад, з'яўлялася «яравізацыя» — метад, паводле якога можна было павялічыць ураджайнасць збожжавых вельмі прастым спосабам: замачыць насенне на суткі, потым вытрымаць у адталым снезе, пасеяць — і ўсе праблемы вырашаны.

Праўдзівыя навукоўцы з праграмамі доўгатэрміновых даследаванняў і нежаданнем даваць шырокавяшчальныя абяцанні былі тады не ў фаворы і выклікалі падазрэнне. Але, каб увесь час знаходзіцца на «перадавых межах навукі», лысенкаўцам неабходна была манаполія ў біялагіі. Дасягнуць яе, не валодаючы сур'ёзным тэарэтычным багажом, яны маглі толькі шляхам дыскрэдытацыі сваіх супернікаў, праз адхіленне іх ад навукі любымі сродкамі і метадамі, у тым ліку і фізічнай ліквідацыяй.

Гэта быў час, калі барацьба ідэй, змаганне навуковых канцэпцый, без якіх навука асуджана на бясплоддзе, апынуліся пад забаронай. Залішняя палітызацыя навукі прывяла да таго, што ўсё абвешчанае немарксісцкім лічылася і ненавуковым. Творчае абмеркаванне пытанняў падмянялася адміністраваннем, выдаленнем з навукі іншадумцаў.



*«Народны акадэмік» Тарас Лысенка*

Цікавае апісанне свайго ўражання ад сустрэчы з Лысенкам пакінуў карэспандэнт газеты «Праўда» Віталь Фёдаравіч:

Если судить о человеке по первому впечатлению, то от этого Лысенко остаётся ощущение зубной боли — дай бог ему здоровья, унылого он вида человек. И на слово скупой, и лицом незначительный, — только и помнится угрюмый глаз его, ползающий по земле с таким видом, будто, по крайней мере, собрался он кого-нибудь укокать.

## Працяг барацьбы

У 1945 годзе А. Р. Жэбрак быў запрошаны на працу ў ЦК УКП(б) на пасаду загадчыка аддзела сельскагаспадарчай літаратуры Кіравання прапаганды і агітацыі, застаючыся пры гэтым загадчыкам кафедры генетыкі раслін Ціміразеўскай акадэміі.

Канцылярская праца не прыносіла Антону Раманавічу творчага задавальнення, як падчас эксперыментаў на кафедры генетыкі і палявой станцыі ў Ці-

міразеўцы, як ад зносін са сваімі аднадумцамі і студэнтамі. Тым не менш ён добрасумленна і ў тэрмін выконваў усе даручэнні і заданні, якія яму даваў яго непасрэдны начальнік С. Г. Сувораў, фізік па адукацыі. Паміж імі паўсталі даверныя адносіны. А. Р. Жэбрак нават тлумачыў свайму начальніку асновы сучаснай генетыкі. Сяргей Георгіевіч аказаўся здольным вучнем: праз некаторы час ён адносна вольна арыентаваўся ў асновах класічнай і лысенкаўскай генетыкі.

Пры падтрымцы С. Г. Суворава Жэбрак арганізаваў «доступ» навукоўцаў-генетыкаў у свой кабінет. Ён сустракаўся з М. П. Дубініным, А. О. Сераброўскім, Б. М. Завадоўскім, М. С. Навашыным і іншымі генетыкамі. Напачатку 1946 года яго наведаў прэзідэнт АН СССР акадэмік С. І. Вавілаў (брат М. І. Вавілава) і меў з ім гутарку пра арганізацыю Інстытута генетыкі і цыталогіі ў сістэме акадэміі як альтэрнатывы Інстытуту генетыкі, які ўзначальваў Т. Д. Лысенка.

Яшчэ ў 1939 годзе вылучэнец Сталіна Лысенка стаў акадэмікам АН СССР. Праз год, пасля арышту акадэміка М. І. Вавілава, ён узначаліў Інстытут генетыкі і быў уведзены ў склад Прэзідыума акадэміі, але ўдзелу ў яго працы не прымаў і не карыстаўся аўтарытэтам у акадэмічных колах. Сапраўдныя навукоўцы вельмі скептычна ставіліся да яго прымітыўных навуковых пошукаў і вінавацілі Лысенку ў тым, што генетыка, якая паспяхова развіваецца за мяжой, дыскрымінавана ў СССР.

У 1942 годзе на выбарах Прэзідыума АН СССР у Свярдлоўску Т. Д. Лысенка, нягледзячы на падтрымку яго кандыдатуры дырэктыўнымі органамі, атрымаў (з ліку кандыдатаў у члены Прэзідыума) менш за ўсіх галасоў: 36 з 60.

Інстытут генетыкі пад кіраўніцтвам Лысенкі замкнуўся ў вузкім коле дробных аграбіялагічных пытанняў, якія цікавілі толькі яго дырэктара. Высока-

кваліфікаваны калектыў навуковых супрацоўнікаў, якія працавалі пры М. І. Вавілаве, быў звольнены і заменены аднадумцамі «народнага» акадэміка, якія гатовыя былі падвесці псеўданавуковае «абгрунтаванне» пад кожны тэзіс свайго дырэктара.

Лысенкаўскі інстытут генетыкі страціў міжнародны аўтарытэт і навуковыя кантакты са шматлікімі навуковымі ўстановамі ў краіне і за мяжой. Прэзідыум акадэміі ўжо не разглядаў яго ў якасці галаўной навукова-даследчай установы краіны па генетыцы.

Напачатку 1946 года Бюро аддзялення біялагічных навук Акадэміі неаднаразова абмяркоўвала пытанні, звязаныя з арганізацыяй іншага Інстытута генетыкі і цыталогіі ў складзе Акадэміі навук, і прыйшло да высновы пра неабходнасць стварэння такога інстытута.

18 чэрвеня 1946 года пад старшынствам С. І. Вавілава адбылося паседжанне Прэзідыума акадэміі. Лысенка, які раней не прымаў удзелу ў паседжаннях Прэзідыума, гэтым разам прысутнічаў. Старшыня ўнёс прапанову падзяліць існы Інстытут цыталогіі, гісталогіі і эмбрыялогіі на два інстытуты: Інстытут цыталогіі, гісталогіі і эмбрыялогіі і Інстытут генетыкі і цыталогіі.

З рэзкім пярэчаннем супраць стварэння Інстытута генетыкі і цыталогіі выступіў Лысенка, які папракнуў навукоўцаў краіны ў празмерным захапленні буржуазнай генетыкай.

Ён заявіў:

> ...Няма на зямным шары іншай такой дзяржавы, дзе б так прапагандаваліся і шырока развіваліся мендэлізм і марганізм, як у нашай краіне! ...Я сцвярджаю, што матывы арганізацыі гэтага другога інстытута — распрацоўка і ўкараненне яшчэ большай метафізікі ў нашу біялогію — мендэлізма-марганізма.



*Антон Раманавіч з сынамі Эдуардам і Барысам, 1936 год*

У абмеркаванні пытання прыняў удзел запрошаны на паседжанне Прэзідыума А. Р. Жэбрак. Прэзідыум акадэміі бачыў у ім дырэктара будучага інстытута і падтрымліваў яго кандыдатуру. У сваім выступе Антон Раманавіч сказаў:

> ...існы Інстытут генетыкі не займаецца пытаннямі генетыкі ў тым плане, у якім гэта навука развівалася ў Акадэміі навук раней і распрацоўваецца ў большасці існых лабараторый... Ізноў створаны Інстытут генетыкі і цыталогіі ні ў якай меры не будзе паралельны існаму Інстытуту генетыкі. Ён будзе займацца зусім іншымі пытаннямі.

Прысутныя на паседжанні навукоўцы падтрымалі ідэю стварэння інстытута. Буйны савецкі фізіёлаг, акадэмік АН СССР і АМН ССР Ліна Штэрн (1878—1968), у прыватнасці, сказала:

> Навука не можа рухацца наперад, калі не прадстаўлены розныя тэндэнцыі, розныя меркаванні, асабліва — розныя метады працы... Стварэнне новага інстытута ці вылучэнне яго з Інстытута цыталогіі, гісталогіі і эмбрыялогіі можна толькі вітаць.

Але ж Лысенка добра разумеў што яго манапольнае становішча можа быць пахістана. Таму ён адкрыта заявіў Прэзідыуму, што не пакіне гэта пытанне без наступстваў і будзе вырашаць яго ў больш высокіх інстанцыях.

24 студзеня 1947 года Прэзідэнт АН СССР С. І. Вавілаў і акадэмік-сакратар Н. Г. Бруевіч накіравалі намесніку старшыні Савета Міністраў СССР Л. П. Берыі (галоўнаму куратару навукі ў краіне) свае прапановы з просьбай дазволіць Акадэміі навук стварыць альтэрнатыўны інстытут генетыкі.

Берыя быў добра дасведчаны пра супрацьстаянне навукоўцаў акадэміку Лысенку, якім так захапляўся Сталін. Ён не ўзяў на сябе аднаасобнай адказнасці за дазвол стварыць новы інстытут. Адрасаваны яму матэрыял ён накіраваў сакратару ЦК УКП(б) Аляксею Кузняцову (1905—1950). У сваю чаргу Кузняцоў параіўся па гэтым пытанні з чальцом Палітбюро ЦК УКП(б) Андрэем Жданавым (1896—1948).

Накіраваў свой ліст А. А. Жданаву і Лысенка, у якім напісаў нечаканую прапанову:

> Думаю, што будзе значна карысней для развіцця як сельскагаспадарчай навукі, так і для большай яе дапамогі вытворчасці, калі Усесаюзная акадэмія сельскагаспадарчых навук імя У. І. Леніна будзе не пры Міністэрстве сельскай гаспадаркі, а пры Прэзідыуме Міністраў СССР.

Гэтым ён прапанаваў зрабіць галіновую акадэмію напроста падсправаздачнай старшыні Прэзідыума І. В. Сталіну, галоўнаму свайму заступніку.

Збянтэжаны гэтым матэрыялам, А. А. Жданаў палічыў за выгоду не ўскладняць становішча. У выніку, навукова аргументаваная прапанова Прэзідыума Акадэміі навук СССР пра стварэнне альтэрнатыўнага інстытута на паседжанні сакратарыята ЦК ВКП(б) і калегіі Савета Міністраў СССР не разглядалася.

Актыўнасць, якую прафесар Жэбрак выяўляў у цэнтральным апараце партыі, выклікала негатыўную рэакцыю ў супрацоўнікаў аддзела сельскай гаспадаркі ЦК УКП(б), большасць якіх былі прыхільнікамі Лысенкі. Яны падрыхтавалі запіску на імя сакратара ЦК ВКП(б) Георгія Малянкова (1902—1988), у якой усімі магчымымі шляхамі агаворваўся прафесар Жэбрак. У заключэнні дакладной запіскі было сказана, што «таварыш Жэбрак для працы ў ЦК непрыгодны». Хутка Антон Раманавіч вымушаны быў пакінуць ЦК.



*А. Р. Жэбрак у лабараторыі. Самарканд, 1942 год*

## Артыкул у амерыканскім часопісе

У красавіку 1944 года ў амерыканскім часопісе «Science» (Навука) быў апублікаваны невялікі палемічны артыкул прафесара Гарвардскага ўніверсітэта цытагенетыка Карла Сакса, які ўважліва сачыў за навуковымі дыскусіямі па генетыцы ў СССР у перадваенныя гады. Аўтар адзначыў у сваім артыкуле:

> Праца рускіх генетыкаў, селекцыянераў і цытолагаў на працягу першых гадоў савецкага ладу заслугоўвае найвышэйшай хвалы, гэтак жа, як і Савецкі ўрад за аказанне гэтак шчодрай дапамогі навуковым даследаванням.

Карл Сакс, аднак, падверг рэзкай крытыцы працы Лысенкі і яго аднадумцаў па яравізацыі збожжавых, «шлюбу па каханні» паміж раслінамі і г. д. Артыкул пашырыў уяўленне замежных чытачоў пра асноўныя прынцыпы працы Лысенкі і яго паслядоўнікаў, а таксама па навуковай палеміцы, якая праходзіла ў краіне. Аднак артыкул аднабакова асвятляў развіццё і ўзровень генетычных даследаванняў у перадваенныя гады: атрымоўвалася, што ўся генетыка ў СССР знаходзіліся пад кантролем догмаў Лысенкі.

Такая аднабаковая інфармацыя закранала патрыятычныя пачуцці савецкіх генетыкаў. Таму паўстала неабходнасць даць аб'ектыўную адзнаку развіцця генетычных даследаванняў у СССР вачамі не замежнага навукоўца, а дасведчанага савецкага вучонага. Гэтым пытаннем заняўся Антыфашысцкі камітэт савецкіх навукоўцаў, які прапанаваў прафесару А. Р. Жэбраку адказаць на артыкул Сакса.

Антон Раманавіч напісаў артыкул «Савецкая біялогія» і ўзгадніў яго з усімі неабходнымі асобамі. 25 красавіка 1945 года артыкул быў накіраваны ў рэдакцыю часопіса «Science». У артыкуле Жэбрак раскрытыкаваў

матэрыялы Сакса. Ён пералічыў шэраг буйных генетычных лабараторый краіны, якія працуюць на сучасным узроўні. Таксама Жэбрак падкрэсліў:

...Савецкі Урад ніколі не ўмешваўся ў дыскусію па пытаннях генетыкі, якая доўжыцца каля дзесяці гадоў...

Даючы адзнаку Лысенку, ён адзначыў:

Крытыка генетыкі акадэмікам Лысенка, заснаваная на чыста абстрактных і наіўных уяўленнях, пры ўсёй сваёй агрэсіўнасці не можа парушыць паспяховага развіцця генетыкі ў СССР.

Знаходзячыся пад уражаннем блізкай перамогі СССР і яго саюзнікаў над нацысцкай Нямеччынай і аддаючы ім даніну сваёй павагі, Антон Раманавіч завяршыў артыкул абзацам, поўным аптымізму:

Рускія навукоўцы высока шануюць навукоўцаў Амерыкі і іх буйныя ўнёскі ў скарбніцу сусветнай навукі. Яны з павагай ставяцца да дэмакратычных прынцыпаў амерыканскага грамадства, якім пагражала гітлераўская рэакцыя ў аднолькавай ступені, як і нашым савецкім парадкам, якія з'яўляюцца праяўленнем вышэйшай формы дэмакратыі... Працуючы ў вобласці біялагічнай навукі, мы разам з амерыканскімі навукоўцамі пабудуем агульную сусветную біялагічную навуку...

Апублікаваны ў кастрычніку 1945 года ў часопісе «Science» артыкул Жэбрака паказаў маштабы і ўзровень генетычных даследаванняў, якія праводзіліся ў краіне ў 1940-я гады. Збольшага артыкул зняў уяўленне пра савецкую генетыку як цалкам змешчаную пад эгідай Лысенкі. Відаць, з гэтым пагадзіўся Карл Сакс у сваім артыкуле пра савецкую біялогію, напісаным як адказ Жэбраку і апублікаваным у снежні 1945 года ў тым жа часопісе.

Ён пісаў:

Ізаляцыянізм у навуцы ці іншай вобласці не можа мець месца ў сучасным свеце, мы спадзяёмся, што зможам неўзабаве аднавіць сувязі і асабістыя зносіны з нашымі рускімі сябрамі і калегамі.

Але ж пасляваенныя гады ў СССР характарызаваліся вялікімі ідэалагічнымі мерапрыемствамі. З пачатку 1947 года была разгорнута шырокая ідэалагічная кампанія барацьбы з «нізкапаклонствам» у свядомасці савецкіх людзей перад «тлетворным влиянием буржуазной идеологии».

У сакавіку таго ж года выйшла пастанова Саўміна СССР і ЦК УКП(б) «Пра суды гонару» ў міністэрствах і цэнтральных ведамствах.

Ідэалагічны партыйна-ўрадавы наступ на савецкую інтэлігенцыю шырыўся, ахопліваў розныя яе пласты і ўзроўні. Гэтым скарысталіся ворагі Жэбрака з лагера Лысенкі. Так, у сакавіку 1947 года газета «Ленінградская праўда» апублікавала артыкул «ваяўнічага марксіста» Ісаака Прэзента (1902—1969), у якой ён назваў генетыку «мертворожденным ублюдком загнивающего капитализма» і абвінаваціў Жэбрака ў нізкапаклонстве перад буржуазнай навукай.

Але артыкул Прэзента ў «Ленінградскай праўдзе» застаўся незаўважаным грамадскасцю, не атрымаў ніякіх водгукаў і не паўплываў на становішча Жэбрака. Напачатку 1947 года ён быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, а 12 траўня 1947 года Антона Раманавіча абралі прэзідэнтам Акадэміі навук БССР.

## А. Р. Жэбрак — Прэзідэнт Акадэміі навук БССР

З імем Антона Раманавіча звязаны пачатак сур'ёзных генетычных даследаванняў на Беларусі. Яшчэ ў красавіку 1940 года Жэбрак быў абраны сапраўдным



*А. Р. Жэбрак (першы злева) у складзе дэлегацыі БССР падпісвае статут ААН, Сан-Францыска, 1945 год*

чальцом Акадэміі навук БССР, што пацвердзіла яго навуковыя заслугі.

У гады вайны Антон Раманавіч удзельнічаў у арганізацыі навуковай дзейнасці Акадэміі навук БССР у эвакуацыі. У 1942—1943 гадах у Самаркандзе ў складзе сельскагаспадарчай групы АН БССР ён займаўся вывядзеннем азімых і яравых гатункаў пшаніцы для БССР на беларускім матэрыяле, сабраным ім падчас экспедыцыі ў 1940 годзе ў гаспадарках Заходняй Беларусі. Са шматлікіх узораў навуковец вылучыў некалькі перспектыўных ліній. Пасля вызвалення Беларусі А. Р. Жэбрак перадаў Наркамзему БССР каля трох тон элітнага насення азімых пшаніц сваёй селекцыі. Вынікі праведзенай працы А. Р. Жэбрак апублікаваў у 1944 годзе ў кнізе пад назвай «Сінтэз новых відаў пшаніц».

За актыўную навуковую дзейнасць у гады вайны А. Р. Жэбрак быў узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга і Чырвонай Зоркі. У 1944 годзе ён атрымаў званне заслужанага дзеяча навукі БССР. У 1945 годзе на ўстаноўчай канферэнцыі ў Сан-Францыска (ЗША) паставіў свой подпіс пад Статутам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый ад дэлегацыі БССР.

Калі паўстала пытанне пра абранне Жэбрака прэзідэнтам Акадэміі навук БССР, ён доўга вагаўся. Вырашальную ролю, відавочна, адыграла разуменне таго, што ў барацьбе з лысенкоўшчынай, у адстойванні сваіх навуковых прынцыпаў спадзявацца, як паказалі факты, толькі на сілу навуковай аргументацыі не даводзілася. Не быўшы наіўным, ён разумеў, што арганізаванай сіле супернікаў неабходна супрацьпаставіць калектыў аднадумцаў.

12 траўня 1947 года адкрылася сесія Агульнага збору Акадэміі навук БССР. З прапановай абраць новым прэзідэнтам акадэміі А. Р. Жэбрака выступілі віцэ-прэзідэнт АН БССР К. М. Міцкевіч (Якуб Колас),

акадэмікі АН БССР Е. К. Аляксееў, В. А. Лявонаў, В. С. Нямчынаў, Н. М. Нікольскі, В. Н. Перцаў.

Рэктар Сельскагаспадарчай акадэміі ім. К. А. Ціміразева В. С. Нямчынаў, які быў адным з ініцыятараў вылучэння Жэбрака на пост прэзідэнта АН БССР, адзначыў, што яго тэарэтычныя даследаванні цесна звязаны з практыкай сельскагаспадарчай вытворчасці. Ён нагадаў таксама, што Антон Раманавіч «выйшаў з глыбінь беларускага народа і справа развіцця навукі ў БССР будзе і яго справай як прадстаўніка гэтага народа». Т. Н. Годнеў, паказаўшы, што высновы А. Р. Жэбрака «разыходзяцца з некаторымі высновамі нашых буйных навукоўцаў», выказаў, аднак, упэўненасць, што спрэчку, якая ідзе ў генетыцы, вырашыць практыка.




*Пасведчанне дэпутата Вярхоўнага Савета БССР А. Р. Жэбрака*

У выніку таемнага галасавання А. Р. Жэбрака аднагалосна абралі прэзідэнтам Акадэміі навук. На гэтай жа сесіі Агульнага збору Антон Раманавіч зрабіў даклад на тэму «Пра пастанову лютаўскага (1947 года) Пленума ЦК УКП(б) Пра меры ўздыму сельскай гаспадаркі ў пасляваенны перыяд і задачах Акадэміі навук Беларусі». У дакладзе ён намеціў шырокую праграму дзеянняў беларускіх навукоўцаў.

Спрэчкі па дакладзе (у іх выступілі вядомыя беларускія навукоўцы Н. С. Акулаў, Е. К. Аляксееў,

Ю. А. Вейс, Т. Н. Годнеў, М. А. Дарожкін, Б. В. Ерафееў, Н. М. Замяцін, А. І. Кайгародаў, О. К. Кедраў-Зіхман, П. П. Рагавы, В. Е. Ракаўскі, М. Г. Чыжэўскі) паказалі, што ідэі Жэбрака, яго метады і шляхі рашэння задач, якія паўсталі перад біялагічнай навукай, знайшлі падтрымку ў навукоўцаў Акадэміі навук БССР. Так, буйны фізік, лаўрэат Сталінскай прэміі акадэмік АН БССР Н. С. Акулаў і хімік, таксама лаўрэат Сталінскай прэміі, членец-карэспандэнт АН БССР Б. В. Ерафееў прапанавалі комплексна вырашаць пытанні, што стаялі перад генетыкай, з тым, каб аб'яднаць у гэтай вобласці высілкі біёлагаў, фізікаў і хімікаў.

Характэрна, што на сесіі ніхто нават не згадаў прозвішча Т. Д. Лысенкі. Толькі сакратар ЦК КП(б)Б М. Т. Іаўчук, які выступаў апошнім, назваў імя «народнага акадэміка», але паставіў яго ў адзін шэраг з акадэмікам Віцыным і Жэбракам. Праўда, у яго выступе прагучаў і трывожны сігнал. Відавочна, маючы на ўвазе публікацыю ў часопісе «Science» артыкула А. Р. Жэбрака пра становішча біялагічнай навукі ў СССР, ён заявіў:

> Нізкапаклонства і рабалепства асобных нашых навукоўцаў перад заходнееўрапейскай навукай складаецца ў тым, што асобныя нашы навукоўцы занадта высока ацэньваюць усякае друкаванне іх прац у замежных часопісах.

У заключным слове Антон Раманавіч адрэагаваў на гэту заўвагу:

> Задача дагнаць і перасягнуць дасягненні замежных краін не можа быць выканана на аснове такіх меркаванняў, што мы, маўляў, шапкамі іх закідаем, што нам да замежжа. Мы, вядома, не павінны плесціся ў хвасце, мы павінны ісці наперад, але мы павінны ведаць тое, што робіцца ў іншых краінах. Мы толькі на аснове ведаў можам меркаваць, наколькі мы іх абагналі...

Кола пытанняў, якія прыйшлося вырашаць новаму прэзідэнту, было надзвычай шырокім і разнастайным. Гэта і аднаўленне ў складзе акадэміі існавалых да вайны інстытутаў, і стварэнне новых (у 1947 годзе былі адноўлены Фізіка-тэхнічны інстытут, Інстытут біялогіі, Інстытут філасофіі і права, створаны Інстытут механізавання сельскай гаспадаркі, архітэктурна-будаўнічы сектар), і планаванне навуковых даследаванняў, і забеспячэнне інстытутаў навукова-тэхнічным абсталяваннем, і аднаўленне разбураных галоўнага і лабараторнага карпусоў акадэміі, падрыхтоўка навуковых кадраў, будаўніцтва механічных майстэрняў, разгляд экспазіцыйнага плану філіяла музея Янкі Купалы ў Вязынцы і г. д.



*А. Р. Жэбрак — Прэзідэнт Акадэміі навук БССР*

Тут выявілася яшчэ адна рыса характару Жэбрака — адвага. На адным з паседжанняў Прэзідыума АН БССР было разгледжана пытанне пра пасмяротнае аднаўленне ў званні сапраўднага чальца АН БССР прафесара Аляксандра Дубаха (1883—1942).

Абраны ў першы склад сапраўдных чальцоў (акадэмікаў) Беларускай Акадэміі навук у снежні 1930 года, А. Д. Дубах быў пазбаўлены звання акадэміка і па ілжывым абвінавачванні арыштаваны. У 1932 годзе пастановай калегіі ДПУ СССР ён быў рэабілітаваны, працягнуў працу ў Ленінградскім лесатэхнічным інстытуце, а напачатку 1942 года, неў-

забаве пасля эвакуацыі з блакаднага горада, памёр у Свярдлоўску.

А. Д. Дубах лічыўся адным з буйнейшых у краіне адмыслоўцаў у галіне гідралогіі балот. У свой час, працуючы старшынёй навукова-тэхнічнага камітэта Наркамзема БССР, ён вырашыў шэраг складаных пытанняў па праектаванні і вытворчасці буйных асушальных прац у рэспубліцы. Кляймо «ворага народа», аднак, азначала, што імя яго падлягае забыццю. І вось Прэзідыум АН БССР узяў на сябе адвагу (гэта ў 1947 годзе!) прасіць Савет Міністраў БССР аднавіць А. Д. Дубаха ў званні акадэміка. На жаль, у снежні таго ж года новы склад Прэзідыума адмяніў гэта хадайніцтва. А. Д. Дубах і шэраг іншых навукоўцаў былі адноўлены ў званні сапраўдных чальцоў АН БССР толькі праз 30 гадоў.

Новы прэзідэнт вёў адначасова напружаную навукова-даследчую працу. У Інстытуце біялогіі АН БССР пад яго кіраўніцтвам былі працягнуты генетыка-селекцыйныя працы з пшаніцамі, пачаты новыя даследаванні з грэчкай, просам і кукурузай з мэтай атрымання па гэтых культурах высокапрадуктыўных, ва ўмовах БССР, гатункаў і ўкаранення іх у вытворчасць.

Нароўні з гэтым Антон Раманавіч рыхтаваў аспірантаў-біёлагаў, прыцягнуў да працы ў Інстытуце біялогіі вядомага савецкага селекцыянера акадэміка Н. В. Цыцына.

Тым часам лысенкаўцы разумелі: калі такія, як Жэбрак, будуць мець магчымасць працягваць свае даследаванні, час будзе працаваць не на іх. У асобе Жэбрака яны бачылі буйнога ворага, здольнага на многае. Ён, у прыватнасці, мог аб'яднаць і згуртаваць моцны атрад біёлагаў Беларусі. І Лысенка пайшоў у наступ, інспіраваўшы ў савецкім друку шэраг накіраваных супраць Жэбрака артыкулаў.

## Так званы «суд гонару»

Адметныя радасцю перамогі, пераходам да мірнай працы першыя пасляваенныя гады прынеслі ў грамадства думку аб неабходнасці рэфарміравання эканомікі, палітычных інстытутаў. Яе носьбітамі з'яўляліся мільёны франтавікоў, якія вызвалялі Еўропу ад гітлераўскай акупацыі, а таксама дзясяткі тысяч грамадзян СССР, прымусова вывезеных на працу ў Германію. Атрымаўшы рэальныя ўяўленні аб больш высокім матэрыяльна-культурным узроўні жыцця грамадства, многія з іх з'яўляліся патэнцыяльнымі носьбітамі ідэй рэфарміравання.

Да разумення неабходнасці зменаў у гіперцэнтралізаванай сістэме кіравання эканомікай прыходзілі і некаторыя значныя гаспадарчыя кіраўнікі. Такія высновы падзяляла частка мясцовага партыйнага апарату. На пазіцыях неабходнасці абнаўлення грамадства стаяла частка інтэлігенцыі, у тым ліку навукоўцы.

Хаця гэта не быў адкрыты пратэст, палітычны рэжым не мог не пралічваць магчымыя вынікі. Таму вышэйшае партыйнае кіраўніцтва краіны на чале са Сталіным узяло курс на правядзенне палітыкі «жалезнай заслоны», жорсткай канфрантацыі з учарашнімі саюзнікамі. Мэтай сталінскай палітыкі з'яўлялася давядзенне да мінімуму палітычных кантактаў з замежнымі краінамі, якія мелі больш высокі ўзровень жыцця, культуры і асабістых свабод. Пачала разгортвацца шырокая ідэалагічная кампанія па ўмацаванню савецкага патрыятызму, «барацьбе з паклaненнем і нізкапаклонствам перад Захадам».

14 мая 1947 года пры сустрэчы з пісьменнікамі А. А. Фадзеевым, Б. Л. Гарбатавым і К. М. Сіманавым Сталін сказаў:

> А вось ёсць такая тэма, якая вельмі важная, якой патрэбна, каб зацікавіліся пісьменнікі. Гэта тэма наша-

га савецкага патрыятызму. Калі ўзяць нашу сярэднюю інтэлігенцыю, навуковую інтэлігенцыю, прафесараў, урачоў, у іх недастаткова выхавана пачуццё савецкага патрыятызму. У іх неапраўданае пакланенне перад замежнай культурай.

Кампанія «барацьбы з нізкапаклонствам» працягвалася да смерці Сталіна. Яе правадніком стаў сакратар ЦК УКП(б) Андрэй Жданаў. З мэтай уздзеяння на інтэлігенцыю 28 сакавіка 1947 года Палітбюро ЦК зацвердзіла праект пастановы Савета Міністраў СССР і ЦК УКП(б) «Аб судах гонару ў міністэрствах СССР і цэнтральных ведамствах». Узорам такіх нова-ўтварэнняў сталі былыя афіцэрскія суды, якія дзейнічалі ў расійскай імператарскай арміі. Суды гонару павінны былі разглядаць:

> ...антыпатрыятычных, антыдзяржаўных і антыграмадскіх учынкаў і дзеянняў, якія здзяйсняліся кіруючымі апаратыўнымі і навуковымі работнікамі міністэрстваў СССР і цэнтральных устаноў, калі гэтыя ўчынкі і дзеянні не падлягалі пакаранню ў крымінальным парадку.

Усё гэта стала нагодай чарговага выбрыка супраць Жэбрака, які быў зроблены 30 жніўня 1947 года ў артыкуле «На суд грамадскасці», апублікаваным у «Літаратурнай газеце». Артыкул быў падпісаны трыма аўтарамі: папулярнымі ў гады вайны паэтамі Аляксандрам Твардоўскім і Аляксеем Сурковым, а таксама ленінградскім журналістам Генадзем Фішам, які сябраваў з І. Прэзентам.

Для надання артыкулу важкасці і ідэалагічнай скіраванасці загадчык аддзела навукі і культуры «Літаратурнай газеты», члец ЦК ВКП(б), акадэмік, філосаф-марксіст Марк Міцін (1901—1987) папрасіў падпісацца пад артыкулам двух народных паэтаў. Яны, не маючы сумлення, ператварыліся такім чынам у «вясельных

